Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№144 (657) 22 ліпеня 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 501040 экз. Кошт у розніцу — 7 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**В Санкт-Петербурге, в Таврическом дворце, исполнительный секретарь СНГ Иван Коротченя и руководитель секретариата Совета Межпарламентской ассамблеи СНГ Михаил Кротов поставили свои подписи под соглашением о взаимодействии ИС и МПА.**

В нем изложена конкретная программа объединения усилий в усовершенствовании практики подготовки документов до рассмотрения их уставными органами СНГ, налаживании контроля за реализацией соглашений и протоколов, расширении обмена информацией и опытом практической работы.

❑

**Председатель Совета Министров Беларуси Вячеслав Кебич посетил в Минске (район гостиницы "Беларусь") площадку, где планируется строительство национально-культурного центра.**

Проект, автором которого является известный архитектор, лауреат Ленинской премии Леонид Левин, предусматривает реконструкцию старых зданий, возведение нового гостиничного комплекса, торговых рядов, здания народного театра, архитектурных площадок для проведения культурно-массовых мероприятий.

❑

**Решением Совета Министров Беларуси от 14 июля Пенсионный фонд и Фонд социального страхования преобразованы в Фонд социальной защиты населения республики.**

До утверждения бюджета фонда на второе полугодие 1993 года финансирование части расходов на оздоровительные мероприятия, осуществляемые профсоюзами, проводится этим фондом по заявкам и расчетам профсоюзов республики.

### Базарные разборки здесь уместны

**Россия намерена добиваться извинений от властей КНДР в связи с инцидентом, который произошел 4 июля в городе Нампхо.**

Напомним: толпа из 500—600 человек окружила на местном базаре трех сотрудников российского торгпредства, а также жену и 12-летнего сына одного из них. "Против них были допущены грубые насильственные действия только за то, что в течение нескольких минут жена сотрудника торгпредства снимала на видеокамеру момент входа группы на рынок", — заявил журналистам заместитель министра иностранных дел Российской Федерации.

### А, холера!

**Два случая заболевания холерой выявлены в Ташкентской области.**

Главный врач Ташкентской областной санэпидемстанции Раджибой Машарипов в интервью "Интерфаксу" высказал мнение, что источником заболевания стала некачественная питьевая вода и несоблюдение местными жителями элементарных правил гигиены.

Создан штаб по ликвидации очага заболевания. Ведется комплексное медицинское обследование местного населения, принимаются меры по дальнейшему нераспространению инфекции.

Холера обнаружена и в соседнем Таджикистане, где от болезни умерли уже два человека.

Рисунок Олега ПОПОВА.

### Такие акционеры нам не нужны

**Нападения ингушских вооруженных формирований на хозяйственные объекты в Пригородном районе Северной Осетии в понедельник являются тщательно спланированной акцией.**

В ходе вооруженных столкновений 19 июля с осетинской стороны погибло 4 и ранено 3 человека. Утром обстрелу из автоматического оружия подверглись колхозники селения Сунжа и обеспечивающие безопасность сельхозработ сотрудники республиканской милиции.

Сотрудниками правоохранительных органов Северной Осетии был захвачен один из нападавших, который находится под стражей в столице Северной Осетии — Владикавказе.

### Народ рассудит сам?

**Абульфаз Эльчибей, лишенный парламентом Азербайджана полномочий президента республики, заявил, что последние решения милли-меджлиса — спланированная акция, направленная на завершение государственного переворота, начатого в начале июня в Гяндже.**

Эльчибей, который уже более месяца находится в селе Телеке (Нахичеванская автономная республика), высказал возмущение в связи с арестом бывшего спикера парламента Исы Гамбара и ряда других деятелей прежнего правительства. Он выразил уверенность, что азербайджанский народ, который познал демократию и свободу в период правления правительства Народного фронта, не смирится с решениями милли-меджлиса.

### Суворовский класс. Но в школе

**Поступить в Минское высшее военное командное училище, оказывается, скоро можно будет и без вступительных экзаменов.**

Достаточно будет сдать выпускные экзамены в столичной школе N 100. С этого года там открывается класс с углубленной допризывной подготовкой.

Как сообщила заместитель директора школы Лидия Салтанович, набор учеников будет проводиться на конкурсной основе.

**Виктор АНАТОЛЬЕВ.**

### С бору по сосенке

**На базе машиностроительных цехов завода "Кормmаш" в поселке Сосновый Бор Светлогорского района создано совместное белорусско-германское предприятие по производству мебели.**

Оборудование для него поставили зарубежные партнеры. И сейчас здесь освоили выпуск превосходных комодов, тумбочек под телевизоры, корпусной мебели. Благо пиломатериалы у нас еще имеются.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Прекрасен наш союз...

**Совещание руководителей пяти соседних областей — Гомельской, Могилевской, Брянской, Черниговской и Житомирской — состоялось в Гомеле.**

Обсуждены вопросы экономического сотрудничества, режима обмена товарами и ресурсами, совершенствования погранично-таможенного законодательства.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Брест в поисках забытого лица

**Достаточно известная в Бресте общественная организация "Старый город" преобразована в акционерное общество, которое будет выступать заказчиком по восстановлению и реконструкции районов исторической застройки города.**

Особое внимание обращено к острову Госпитальный (территория Брестской крепости), где находятся и по сей день в разной степени сохранности монастыри, церкви, ратуши...

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**

### Легко отделались

**Каково было удивление заведующей столичного гастронома N 14, когда в кабинет к ней вошел приличного вида мужчина, извлек из кулька две селедки и размазал их на столе.**

Резкая вонь наполнила комнату. За две тощие гнилые сельди с душком покупатель выложил более пятисот рублей. Его возмутил сам факт, когда без зазрения совести прячется дешевый товар и ждет своего часа, чтобы стать дорогим, но уже никому не нужным. Все забыли о качестве, и цель у торговли одна — лишь бы накрутить цену и извлечь прибыль.

**Лилия КОЗЫРЕВА.**

### Не пейте, дети, молоко — будете здоровы

**Низкое качество продуктов питания, которые мы потребляем, несмотря на растущие цены, практически не улучшается.**

Результаты госнадзора на предприятиях Минсельхозпрода более чем неутешительные. Проверками выявлено завышение концентрации опасных для здоровья веществ — тяжелых металлов, нитратов, пестицидов, радионуклидов, антибиотиков.

**Ирина ЛЕВШИНА.**

### Нам не дано предугадать

Сорок четыре выпускника Брестского пединститута вместе со специальностью учителя получили в этом году степень бакалавра. Звание присвоено тем, кто окончил институт с отличием и выдержал квалификационный экзамен по белорусскому языку.

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**

### Спорт-экспресс

Молодежная сборная Беларуси по баскетболу с 25 по 29 июля примет участие в квалификационном турнире 2-го чемпионата Европы. Соперниками белорусов будут команды Турции, Чехии, Румынии, Хорватии и Польши.

❑

Минчанин Александр Метлицкий расстался с австрийским футбольным клубом "Рапид" и заключил новый контракт с австрийским клубом второй лиги ЛАСК.

❑

Возможно, Сергей Алейников будет первым из футболистов бывшего СССР, который выступит в Японии. Он планирует подписать контракт с клубом "Тамба" из Осаки.

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

*Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Кенія, Рэспублікай Беларусь і Сірыйскай Арабскай Рэспублікай

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Пагадзіцца з прапановай Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Кенія, Рэспублікай Беларусь і Сірыйскай Арабскай Рэспублікай.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.Шушкевіч.**

14 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск. N 238-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб ратыфікацыі Пагаднення паміж урадам Рэспублікі Польшча і ўрадам Рэспублікі Беларусь аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання даходаў і маёмасці

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

1. Ратыфікаваць пагадненне паміж урадам Рэспублікі Польшча і ўрадам Рэспублікі Беларусь аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання даходаў і маёмасці, падпісанае 18 лістапада 1992 года ў горадзе Мінску.

2. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь ажыццявіць неабходныя меры па выкананню гэтай пастановы.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

10 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск. N 2363-XII

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб назначэнні Мартынава С.М. Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі і прысваенні яму дыпламатычнага рангу Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Назначыць Мартынава Сяргея Мікалаевіча Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі.

2. Прысвоіць Мартынаву Сяргею Мікалаевічу дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

7 ліпеня 1993 г.
г.Мінск. N 2470-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб выбранні членаў Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць членамі Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь:

**БАРЫСАВА Аляксея Васільевіча,**

**ЕЎСЮКОВА Уладзіміра Аляксандравіча,**

**КОРЗУНА Мікалая Генадзьевіча,**

**ПАПОВІЧА Георгія Паўлавіча.**

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

17 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.
N 2430-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб выбранні суддзяў ваенных судоў

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць членамі Ваеннага суда Рэспублікі Беларусь: **ДРАГУЧЭНКУ Уладзіміра Васільевіча, КАНЮКА Аляксандра Уладзіміравіча.**

Выбраць старшынёй ваеннага суда Мінскага гарнізона **ЛІЗУНОВА Паўла Мікалаевіча.**

Выбраць членам 97-га ваеннага суда **КАРАНЕЎСКАГА Андрэя Паўлавіча.**

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

17 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск. N 2432-XII

*З афіцыйных крыніц*

### Рабочая група зацверджана. Будзем чакаць вынікаў яе працы

**Распараджэннем Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча ўтворана рабочая група, якая будзе рыхтаваць праект дагавора і іншыя дакументы, што рэалізуюць Заяву ўрадаў Беларусі, Расіі і Украіны аб неадкладных мерах па паглыбленню эканамічнай інтэграцыі.**

Кіраўніком групы назначаны віцэ-прэм'ер Уладзімір Заламай, яго намеснікамі — Валянцін Заяш і Мікалай Лісай. У складзе групы спецыялісты з Міністэрства фінансаў, банкаў, шэрагу дзяржаўных камітэтаў.

**Белінфарм.**

*Роздум*

### Ці стане Мінск еўрапейскай сталіцай?

**Іван МАКАЛОВІЧ, журналіст**

Парыж славіцца Эйфелевай вежай, Варшава — Старым мястом, Масква мае Крэмль, Рым — суквецце помнікаў... А чым адметны Мінск? Мікраараёнамі-"чаромушкамі"? Вы хоць калі-небудзь пазіралі праз акно вагона, калі цягнік набліжаецца да вакзала нашай сталіцы? Паабапал каляі — абшарпаныя склады, смецце... Не, з такім пейзажам горад не можа прэтэндаваць на сталіцу еўрапейскай дзяржавы.

Вядома, войны-віхуры зруйнавалі ўсё адметнае і старажытнае. Але ж захавалася гістарычнае сэрца горада — Няміга. Дык яе разбурылі наменклатуршчыкі. Бачыце, вузкаватай была для тралейбусаў...

Беларусь — геаграфічны цэнтр Еўропы, а Мінск — цэнтр гэтага краю. Таму самі па сабе напрошваюцца назвы праспектаў — Віленскі, Полацкі, Маскоўскі, Кіеўскі, Варшаўскі, Слуцкі, Турава-Пінскі, якія, нібы промні, разбягаліся б ад цэнтра горада і адлюстроўвалі б нашу мінуўшчыну і сувязь са светам. Цэнтральныя плошчы і магістралі ўпрыгожылі б імёны лепшых сыноў і дачок Радзімы, якімі ганарыцца Еўропа, такімі, як Рагнеда, Прадзіслава, Рагвалод, Астрожскі, Каліноўскі, дзед Талаш... А чым не назва "праспект Сініх Воды" — у гонар выдатнай перамогі над татара-манголамі, якая выратавала Еўропу ад нашэсця і якая па сваёй важнасці пераўзыходзіць вядомую Кулікоўскую бітву.

Чаму б у Мінску не пабудаваць Славянскі праспект, які складаўся б "з кавалачкаў" Масквы, Кіева, Варшавы, Сафіі, Браціславы... з іхнімі архітэктурнымі адметнасцямі, магазінамі, гатэлямі, рэстаранамі, культурнымі цэнтрамі...

А побач — Еўрапейскі праспект з "кавалачкамі" Германіі, Францыі, Італіі, Іспаніі, Грэцыі... Хто перашкаджае выступіць з такой ініцыятывай?

Чаму б на базе музея Вялікай Айчыннай вайны не стварыць сусветны музей вайны, які сабраў бы і паказаў бы ўсе тыя жахі, якія прынеслі свету войны? Гэта быў бы філасофскі музей па свайму духу. І месца яго менавіта ў Беларусі, на землях якой разгортваліся галоўныя падзеі большасці вялікіх еўрапейскіх бойняў.

А побач — музей міру, плён стваральнай чалавечай думкі... Бо да міру ў нас самая вялікая прага.

Абавязкова трэба захаваць музей I з'езда РСДРП. Толькі расказаць у ім пра тыя жахлівыя вынікі, якія прынеслі людзям камунізм і таталітарызм.

Гэтыя тры музеі — вайны, таталітарызму і міру — маглі б стаць самымі важнымі ва ўсім свеце.

Быў бы вельмі дарэчы нацыянальны парк "Лясы Беларусі". У нашым, далёка не паўднёвым краі добра было б мець парк пад шклом, дзе б і ўзімку дзеці з бацькамі маглі пабываць у леце.

Калі б я вырашаў — у будынку былога ЦК КПБ, цяперашняга Вярхоўнага Савета, пасяліў бы Нацыянальную бібліятэку, а ў палацы, што даўно будуецца насупраць, Скарынінскі цэнтр...

Толькі беглы эскізны накід...

Гэта не фантазія. Гэта ўжо павінна было б стаць тэмай дыскусіі ў друку і пачаткам ажыццяўлення важнейшага праекта. Тут патрабуецца не столькі сродкаў, колькі жадання і ініцыятывы. Быў бы ў нас нацыянальны па духу парламент і ўрад, думаю, патрэбы ў такім артыкуле не было б. Бо многае з гэтага рабілася б.

*Адказ дэпутату*

## Дзе гатуюць "фірменныя віцебскія справы"? Усё-такі ў Віцебску...

**Мікалай АЧЫЖА**

Калі слова на сесіі Вярхоўнага Савета бярэ хтосьці з дэпутатаў, якіх не бачыш за трыбунай, у чэргах да мікрафонаў, то міжволі завастраеш увагу: што чалавек выношваў так доўга ў душы...

Мікалай Федарчук — не навічок ва ўладных структурах. Ён кіраваў Віцебскім гарсаветам, а нядаўна зрабіў чарговы крок па службовай лесвіцы — у крэсла намесніка старшыні аблвыканкама. Таму ён меў усе падставы адрэкамендавацца калегам па парламенту так: "гражданин, близко чувствующий общественно-политическую атмосферу в области и городе Витебске".

Прамова Федарчука з трыбуны сесіі была кароткай, але прагучала як серыя мінамётных залпаў. Першы, чым ужо нікога не здзівіш, дэпутат выпусціў па сродках масавай інфармацыі, якімі (цытую) "настойчиво обсасываются любые действия облисполкома, Витебского горисполкома, их должностных лиц, запускаются с ходу неизвестно откуда взятые огромные суммы ущерба".

Другі знішчальны залп Мікалай Федарчук паслаў вышэй: "Нельзя не видеть, что рядом с вами, уважаемый Станислав Станиславович, сформировалась политическая кухня по приготовлению витебских фирменных блюд, которые подаются вам на стол с заранее навешенными ярлыками, затем громко озвучиваются вами в отдельных речах".

Потым прамоўца адмоўна ахарактарызаваў дзейнасць абласной інспекцыі Кантрольнай палаты.

Навошта спатрэбіўся дэпутату рашучы дэмарш? Сваёй мэты ён і не хаваў: каб абараніць сваіх паплечнікаў-начальнікаў ад быццам бы... маральнага расстрэлу.

Жудасна гучыць, аж мурашкі па спіне бегаюць, ці не праўда? Асабліва для тых, хто нічога не ведае пра віцебскія справы, якія названы Федарчуком "фірменнымі".

Я нічога не маю сказаць пра існаванне палітычнай кухні каля Станіслава Шушкевіча, ёсць людзі, якія атрымліваюць заробак за пацвярджэнне альбо абвяржэнне тых альбо іншых звестак. Хаця з добра дасведчаных крыніц мне вядома, што Старшыні Вярхоўнага Савета ў маі бягучага года быў накіраваны ліст, аўтара якога ну ніяк не назавеш "дэмакратам-здраднікам" (такі выраз прыдумаў адзін былы першы сакратар райкама КПБ у супрацьвагу "партакратам").

У тым лісце сцвярджалася, што ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі Віцебскай вобласці назіраецца катастрафічны спад. Прычын тут многа. Сярод іх і такая — доўгі час хварэе старшыня абласнога Савета У.Кулакоў і відавочна няздольнасць яго намеснікаў прымаць меры па ўхіленню недахопаў. Аўтар ліста прапаноўваў склікаць сесію аблсавета і вырашыць пытанне кадравых перастановак.

Называць гэта стравай палітычнай кухні? Тады паглядзім, на якім булёне яе гатавалі.

Газеты паведамлялі пра тое, як віцебскія асы-кіраўнікі прамаргалі ўцечку 900 мільёнаў рублёў, выдзеленых для набыцця збожжа, у кішэні камерцыйных структур. Заўважце, што лік на мільёны рублёў ішоў у мінулым годзе, а цяпер ён падняўся да мільярдаў. Замест белых булак з пшаніцы жыхары вобласці праглынулі горкі камяк, а пакаранне павесілі на плечы дробных рыбак.

І ніхто з віцебскіх высокіх начальнікаў не кінуўся ў суд. Можна меркаваць, што яны былі задаволены такім мяккім фінішам буйнейшай фінансавай аферы.

Рубам паўставала пытанне аб персанальнай адказнасці першага намесніка старшыні аблвыканкама Пятра Драздова. Менавіта ён кіраваў (дарэчы, без законных падстаў) дзяржаўным прадпрыемствам па знешнеэканамічнай дзейнасці пры аблвыканкаме. Менавіта Пётр Віктаравіч арганізаваў вываз за мяжу 2 мільёнаў курыных яек, 4 тысяч тон мінеральных угнаенняў у абмен на паступленне з-за мяжы 9 тысяч тон цэменту і 172 тысяч лістоў шыферу. Будаўнічыя матэрыялы ў Віцебскую вобласць паступілі, але не з Польшчы, а з Ваўкавыска.

Спецыялісты знайшлі здзелку, праведзеную Драздовым, даволі дзіўнай, бо ў выніку гандлёвых аперацый не паступіла з-за мяжы 589,3 тысячы долараў, а з калгасаў, саўгасаў, забеспячэнскіх і іншых арганізацый незаконна было спагнана звыш 11 мільёнаў рублёў.

На пасяджэнні савета Кантрольнай палаты яе старшыня Васіль Саковіч так і сказаў у адрас Пятра Драздова: "Вы абадралі, як ліпку, тыя самыя калгасы, за горкі лёс якіх заўсёды плачаце".

Сапраўды, усё выглядае як дрэнны жарт.

Два беларускія суб'екты гаспадарання — Віцебск і Ваўкавыск — дамаўляюцца аб пастаўцы шыферу і цэменту праз Польшчу. У выніку польская фірма амаль бясплатна атрымлівае яйкі, угнаенні, той-сёй харчуецца з беднага рэспубліканскага кацялка.

І зноў пра нейкія кадравыя высновы гаварыць немагчыма, бо ў Савеце Міністраў палічылі немэтазгодным рашуча ставіць пытанне аб першым намесніку старшыні аблвыканкама. Пакуль што можна сказаць толькі адно: ідзе следства, трэба разумець, на выяўленне асабістай карысці службовых асоб. Дрэнна пахнучы характар абедзвюх здзелак і са збожжам, і з курынымі яйкамі пацверджаны кантрольнымі органамі.

А вось прыклад з іншай оперы — жыллёвай. Дэпутаты абласнога Савета Б.Мацвееў і гарадскога — В.Афанасьеў выявілі шэраг асоб, якія незаконна атрымалі жылплошчу ў той момант, калі гарвыканкамам кіраваў Мікалай Федарчук. "Дзіву даешся, — пісалі дэпутаты, — дзесяткі тысяч жыхароў Віцебска пакутуюць, не маючы ніводнага метра жылплошчы, заблыталіся ў адскім лабірынце безвыходнасці, а тут ідзе гандаль дзяржаўнай жылплошчай са здзекам".

Дарэчы, дэпутаты Мацвееў і Афанасьеў звярнуліся ў пракуратуру. Пра тое, ці звяртаўся туды дэпутат Федарчук, звестак няма...

Можна крыўдзіцца на абласную інспекцыю Кантрольнай палаты, але ж яе калектыў выконвае службовыя абавязкі, акрэсленыя адпаведным законам. І ў дадзеным выпадку парламенцкая трыбуна — не лепшае месца для абароны гонару мундзіра з боку тых віцебскіх кіраўнікоў, якія яго заплямілі. Напрыклад, супрацоўнікі абласной інспекцыі М.Іваноў і В.Шарковіч выявілі, што Віцебскі гарвыканкам незаконна прадаў будынак па вуліцы Пушкіна, 4 малому прадпрыемству "ЛК+МК". Гэтаму ж прадпрыемству з загадкавай назвай незаконна і па значна заніжанаму кошту прададзены дом па вуліцы Лазо. Пры продажы незавершанай прыбудовы да шматпавярховага дома па Маскоўскім праспекце дзеянні гарвыканкама прынеслі страту дзяржаве больш чым 10 мільёнаў рублёў.

Супрацоўнікі абласной інспекцыі не лічаць сваю ўстанову носьбітам ісціны ў апошняй інстанцыі. Матэрыялы праверак яны накіроўваюць у савет Кантрольнай палаты, у гаспадарчы суд...

Дык навошта спадару Федарчуку паліць порах на парламенцкай трыбуне, калі крытыкуемыя ім інстанцыі звяртаюцца якраз туды, куды ён толькі пагражае звярнуцца...

Зусім нядаўна ў сродках масавай інфармацыі, у тым ліку і ў "Народнай газеце", прамільгнула паведамленне аб дачыненні да брудных спраў у вывазе тавараў загадчыцы сакратарыята першага намесніка старшыні аблвыканкама П.Драздова. Раней быў аштрафаваны народным судом за парушэнне заканадаўства аб вывазе тавараў намеснік старшыні аблвыканкама Альберт Каралеў. Няўжо і гэтыя "фірменныя віцебскія стравы" згатаваны ў Мінску. Выходзіць так, калі падпарадкоўвацца логіцы Мікалая Федарчука.

Але ж ёсць і іншая логіка.

Народная Газета

*Закон Рэспублікі Беларусь*

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю (Асноўны Закон) Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці ў Канстытуцыю (Асноўны Закон) Рэспублікі Беларусь наступныя змяненні і дапаўненні:

частку трэцюю артыкула 97 дапоўніць пунктамі $19^1$ і $19^2$ наступнага зместу:

"$19^1$) пытанні абароны суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь: вызначэнне знешняй і ўнутранай палітыкі ў галіне абароны і ваеннага будаўніцтва; увядзенне ваеннага становішча на тэрыторыі рэспублікі або ў асобных яе раёнах, аб'яўленне стану вайны, агульнай або частковай мабілізацыі; прыняцце рашэнняў аб адмене ваеннага становішча, аб спыненні стану вайны і аб заключэнні міру;

$19^2$) прыняцце рашэння аб выкарыстанні кантынгенту Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь";

пункт 5 часткі другой артыкула 118 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

"5) нясе адказнасць за забеспячэнне абароны Рэспублікі Беларусь, выкананне пагадненняў з іншымі дзяржавамі па пытаннях абароны, ажыццяўленне кіраўніцтва будаўніцтвам Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

27 мая 1993 г.
г.Мінск.
№ 2325-XII

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў) у Рэспубліцы Беларусь

У мэтах пашырэння магчымасцей і ўпарадкавання прававога рэгулявання набыцця грамадзянамі ва ўласнасць кватэр (дамоў)*, паступовага пераходу да фарміравання рынку жылля Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь распрацаваць і прыняць Часовае палажэнне аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў), якія не падпадаюць пад дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь", прадугледзеўшы ў ім, што:

права на набыццё кватэры ва ўласнасць шляхам куплі маюць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі рэспублікі;

кватэры могуць быць прададзены грамадзянам, якія пастаянна пражываюць у дадзеным населеным пункце, акрамя выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У выпадках продажу кватэр на аўкцыёнах пакупнікамі іх могуць быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь незалежна ад пражывання ў дадзеным населеным пункце і патрэбнасці ў паляпшэнні жыллёвых умоў, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, а таксама юрыдычныя асобы. Пры гэтым замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства могуць набываць кватэры ва ўласнасць, калі яны маюць на тэрыторыі рэспублікі пастаяннае месца жыхарства і законную крыніцу існавання, а юрыдычныя асобы — калі яны зарэгістраваны ў якасці такіх на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. У выпадках продажу кватэр на аўкцыёнах у горадзе Мінску пакупнікамі іх могуць быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць у горадзе Мінску, і юрыдычныя асобы, зарэгістраваныя на яго тэрыторыі;

аб'ектамі куплі-продажу могуць быць таксама службовыя жылыя памяшканні ў дамах калгасаў і саўгасаў пры продажы іх асобам, якія працуюць у гэтых гаспадарках або пражываюць у дадзенай мясцовасці;

сродкі, якія паступаюць ад продажу кватэр у дамах, якія належаць мясцовым Саветам народных дэпутатаў, залічваюцца ў мясцовы бюджэт, а ў дамах, што знаходзяцца ў веданні дзяржаўных прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый, калгасаў, — у іх даход. Указаныя сродкі выкарыстоўваюцца ў першую чаргу на жыллёвае будаўніцтва, утрыманне, рэканструкцыю і рамонт жыллёвага фонду.

2. Устанавіць, што Часовае палажэнне аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў), якое будзе прынята Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з гэтай пастановай, дзейнічае да прыняцця заканадаўчых актаў, што рэгулююць гэтыя адносіны.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С.ШУШКЕВІЧ.**

11 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2378-XII

* У далейшым — кватэры.

*Редакции "Народной газеты"*

***Исполком Пинского городского Совета народных депутатов просит опубликовать как можно в более короткие сроки открытое письмо Председателю Совета Министров Республики Беларусь Кебичу В.Ф., принятое на заседании исполнительного комитета 12.07.93 г.***

**П.Н.ТИЩУК,**
**первый заместитель председателя горисполкома.**

*Открытое письмо Председателю Совета Министров Республики Беларусь КЕБИЧУ В.Ф.*

# Почему нарушается закон?

Уважаемый Вячеслав Францевич!

Вынуждены обратиться к Вам через "Народную газету", поскольку обращения в установленном порядке в службы Совета Министров положительных результатов не дают.

А теперь конкретно о деле.

Согласно Закону "О местном самоуправлении и местном хозяйстве в Республике Беларусь" (ст. 36), в случае издания законодательных актов и решений правительства, актов министерств и ведомств республики, вызывающих увеличение расходов нижестоящих бюджетов, этим бюджетам возмещаются средства из вышестоящего бюджета за счет ресурсов соответствующих министерств и ведомств. Совет Министров республики своими постановлениями зафиксировал цены на коммунальные услуги, отпускаемые населению республики, в том числе и проживающим в домах ЖСК. Значительная часть кооперативов в нашем городе получает теплоэнергию от ведомственных котельных, которые, применяя фиксированные цены, несут огромные убытки.

Вместе с тем при формировании местных бюджетов, в том числе и Пинского городского, вышестоящие инстанции не предусматривают средств на покрытие убытков ведомственным котельным, отпускающим тепло домам ЖСК. В связи с этим уже с начала 1991 года горисполкомом ведется переписка, осуществляются встречи, переговоры с вышестоящими инстанциями и должностными лицами, возглавляющими эти инстанции, начиная с облисполкома и кончая Верховным Советом Республики Беларусь.

Ближе всего к решению данной проблемы подошли после письма в Совет Министров от 07.02.92 г. (N 1—3), на что министр финансов в своем письме Совмину от 25.02.92 г. (N 02—3/25) согласился с существованием проблемы и попросил отсрочки с ответом для изучения ситуации в целом по республике, на что Вами была наложена резолюция: "Согласиться". Но, к сожалению, этим все и закончилось. Нам непонятно: либо в Минфине посчитали, что никаких проблем нет, либо использовали данный прием для снятия с контроля в Совмине данного вопроса.

Но вот наступил 1993-й год, который ознаменовался стремительным ростом цен на энергоресурсы. И опять в бюджете денег на покрытие убытков ведомственных котельных, отпускающих теплоэнергию жилищно-строительным кооперативам, не оказалось. По настоянию города 11.02.93 г. в решении N 150 "О бюджете области на 1993 год" сессия областного Совета обратилась в Совет Министров с просьбой все-таки решить проблему, выделив на эти цели необходимые средства. Правительство до сего времени молчит.

Вместе с тем в городе создалась угроза остановки крупнейшей ведомственной котельной из-за отсутствия денег на приобретение мазута, что означает в зимний период оставить значительную часть горожан без тепла. Исполком в данной ситуации вынужден был пойти на крайнюю меру и принял решение (от 16.03.93 г. N 166) о покрытии вышеуказанных убытков ведомственным котельным за счет недоперечисления средств в республиканский бюджет. Причем, подчеркиваем, что данная вынужденная мера принята после нарушения высокими инстанциями Закона о местном самоуправлении.

Здесь уместно будет вспомнить февраль 1991 года, когда первый раз "подскочили" цены на энергоресурсы, в результате чего тарифы на теплоэнергию для населения не стали покрывать затрат, связанных с их производством. Не получив соответствующей компенсации на покрытие указанных убытков, в Совете Министров тогда уже были готовы ослушаться всесильной Москвы. Вот что было записано в протоколе совещания у первого заместителя Председателя Совета Министров БССР т.Мясниковича М.В. от 15.02.91 г. (N 53—1/3—250): "В случае отказа союзными органами в просьбе республики о выделении на эти цели необходимых средств Министерству финансов БССР (т.Янчук) внести в указанном порядке предложения о компенсации энергоснабжающим организациям затрат, вызванных разницей между тарифом на отпускаемую жилищно-эксплуатационным организациям тепловую энергию и ее ценой для населения, за счет уменьшения размеров отчислений средств Белорусэнерго в союзный бюджет".

Что же изменилось сейчас? По всей видимости, только то, что наш Совмин стал высшим органом власти, а следовательно, проблему смог столкнуть "вниз".

Но вернемся к решению Пинского исполкома. Несмотря на его принятие, исполком продолжал искать пути решения данной проблемы Советом Министров в установленном порядке. Обратились за помощью к народным депутатам республики от Пинска Алампиеву В.П., Волкову А.Е., Середичу И.П. Еще раз обратились к министру финансов Янчуку С.П. И что же? Минфин в бесспорном порядке снял со счета местного бюджета средства, причитающиеся в республиканский бюджет, руководствуясь Законом о бюджете, почему-то забыв о Законе о местном самоуправлении и местном хозяйстве.

Причем об этом забыли и прокуратура, внесшая протест на решение горисполкома, и облисполком, отменивший данное решение. На наше письмо заместитель министра Некрашевич В.Ф. ответил: "Из-за отсутствия в бюджете свободных остатков средств не представляется возможным оказать городу финансовую помощь". Заметьте, что речь идет о помощи, а не о выделении средств на покрытие убытков, которые произошли в результате принятых Советом Министров постановлений.

И последнее из этого ответа: "...при уточнении бюджета республики на текущий год указанные расходы местных органов власти будут скорректированы с учетом происшедшего удорожания энергоресурсов и наличия средств в республиканском и местных бюджетах". Как мы понимаем, средства на данные цели опять не будут предусмотрены. И придется опять недодавать даже того минимума, который имеется, здравоохранению, образованию, коммунальному хозяйству и т.д.

Просим Вас, уважаемый Вячеслав Францевич, дать указания службам Совмина внимательно ознакомиться с Законом Республики Беларусь "О местном самоуправлении и местном хозяйстве в Республике Беларусь" (и другими законодательными актами) и руководствоваться ими в своей повседневной деятельности. Надеемся также, что деньги в сумме 71,7 млн. руб., незаконно отнятые Минфином, в короткие сроки городу будут возвращены.

**Исполком Пинского городского Совета народных депутатов.**

*(Принято на заседании 12.07.93 г.)*

*Віншуем!*



Днямі ў майстэрню вядомага мастака Леаніда Шчамялёва завіталі міністр культуры Рэспублікі Беларусь Яўген Вайтовіч і міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч.

Высокія госці мелі прыемнае даручэнне — уручыць Леаніду Дзмітрыевічу медаль імя Францыска Скарыны за вялікі ўклад у развіццё беларускага выяўленчага мастацтва.

"Народная газета" далучаецца да віншаванняў, якія былі адрасаваны Леаніду Дзмітрыевічу, і спадзяецца, што Беларусь яшчэ пабачыць шмат новых работ Майстра.

**Фота Аляксандра АГРЭСТА.**

*Не хлебам адзіным*

## Другая маладосць Нясвіжа

Радзівілы заўсёды мелі непасрэднае дачыненне да ўрада. Здаецца, што маюць і сёння. Таму што іх радавому гнязду палацапаркаваму ансамблю горада Нясвіжа — надаецца статус урадавай рэзідэнцыі. Тут будзе дзейнічаць філіял Дзяржаўнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

Вырашана адначасова стварыць на базе палаца-паркавага ансамбля і іншых помнікаў гісторыі і культуры нацыянальны гісторыка-культурны запаведнік "Нясвіж" з падпарадкаваннем яго Міністэрству культуры.

У недалёкім будучым плануецца зрабіць Нясвіж цэнтрам айчыннага і міжнароднага турызму з адпаведнай інфраструктурай. Пачынаецца распрацоўка праграмы работ па рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры горада, комплекснай рэканструкцыі яго гістарычнай забудовы і палацапаркавага ансамбля, адраджэнню вытворчасці габеленаў і іншых народных промыслаў. Ваеннаму ведамству прапанавана вызваліць тэрыторыю і будынкі помнікаў архітэктуры XVI стагоддзя — бернардзінскага кляштара і езуіцкага калегіума. Адпаведным ведамствам дадзена даручэнне арганізаваць пошукі гісторыка-культурных каштоўнасцей, вывезеных у розныя гады з Нясвіжа, і зрабіць усё магчымае для іх вяртання на радзіму. Перад міжнароднымі арганізацыямі ставіцца пытанне аб уключэнні палаца-паркавага ансамбля і Нясвіжскага касцёла езуітаў з краптам і фамільнай пахавальняй князёў Радзівілаў у спіс помнікаў сусветнага значэння.

Адначасова плануецца пачаць падрыхтоўку спецыялістаў для работы ў гісторыка-культурных запаведніках. Яны пройдуць адпаведную стажыроўку за мяжой.

Многіх жыхароў, якія пражываюць у дамах гістарычнай часткі Нясвіжа, чакае адсяленне. Але яны могуць не хвалявацца. Дзяржэканамплан выдзяляе Нясвіжскаму райвыканкаму капітальныя ўкладанні на будаўніцтва пяці тысяч квадратных метраў агульнай жылой плошчы.

**Ігнат ЗАВЕЯ.**

*Журналісцкае даследаванне*

# Прасцей прыручыць тыгра, чым прадаць беларускі жэньшэнь...

## Яшчэ раз аб тым, якія мы багатыя і чаму такія бедныя

**Павел СТАСЕВІЧ**

Скажу адразу: калі я пабываў нядаўна на Мінскай гароднінная фабрыцы, то мае асабістыя ўяўленні пра далёкаўсходнюю ды карэйскую прыроду, дзе знайшоў сабе прытулак легендарны "корань жыцця", даволі змяніліся. Не гаворачы ўжо пра сам жэньшэнь — таемную расліну, авеяную казкамі, легендамі і прымаўкамі накшталт "лягчэй прыручыць тыгра, чым вырасціць жэньшэнь".

Скажу нават больш: уражанне такое, што жыццядайны і славуты корань на Беларусі можна пры жаданні проста касіць касою. Тым больш што на фабрыцы жэньшэнь стаіць такою сцяною, бы травы на Палессі. Узяў бы, здаецца, касу — і як даў бы з самага ранку!..

— Касою нязручна. Марокі многа. Мы тут трактарчык прыладкавалі... — супакоіў мяне, адчуўшы настрой госця, Георгій Іванавіч Віаленцій, аграном і галоўны гаспадар усёй гэтай справы па фабрыцы.

— ?!!

— Тэхнікай раз-два — і гатова. Збірай карэньчыкі...

Вось табе на! Ішоў паглядзець на вельмі капрызны і рэдкі цуд прыроды, а тут трактар каля яго лазіць... Аж нецікава стала. Асабліва калі ведаеш, колькі сіл і нерваў укладваюць жэньшэневоды-аматары, каб выгадаваць гэты "корань жыцця".

— О, цікавага і ў нас многа! А пра час, сілы і нервы — таксама гаворка асобная, — дадала Ірына Канстанцінаўна, жонка і памочнік Георгія Іванавіча. — Проста мы здолелі "прыручыць" гэтую далікатную і каштоўную расліну. Прычым так, што наша фабрыка можа "заваліць" жэньшэнем не толькі Беларусь, але і многія замежныя краіны.

— Чаму ж тады не завальвае?!.

— Самі ў гэтым ніяк не можам разабрацца, — уздыхнулі мае субяседнікі, а разам з імі і сорак іх падначаленых.

І іх можна зразумець. Справа ў тым, што, па многіх звестках, сапраўднага "дзікага" далёкаўсходняга жэньшэня амаль не засталося. Тлумачыцца гэта проста: зараз, калі "ўсё можна", не трэба і ліцэнзіі на здабычу "кораня жыцця". І таму нашы суседзі па СНД сіламі камерцыйных структур павыдзіралі з далёкаўсходніх лясоў усё, што там было хоць крыху падобнае на жэньшэнь — за яго ж "ішла" валюта.

Хто яго ведае, можа, яно і не зусім так, але па звестках, якія маюцца, зараз, каб аднавіць славу далёкаўсходняга жэньшэня, у тайгу завозіцца "расада", каб там "дзікуна" вярнуць на абжытае месца...

— Не ведаю я, ці будзе з гэтага які толк, — дадае Георгій Іванавіч. — А вось у нас сапраўдны дзікі корань ёсць — я прывёз крыху адтуль і мы гэтую папуляцыю расшырылі. Так што "самы далёкаўсходні" зараз — на нашых градках...

Ды справа, у рэшце рэшт, не ў ступені "дзікунства" жэньшэня. Каб не "гнаць" невядома што, фабрыка не пашкадавала два мільёны рублёў, каб правесці поўны аналіз сваёй прадукцыі. "Прыгавор", вынесены спецлабараторыяй у Обнінску пад Масквою: вышэйшая якасць, сусветны ўзровень.

Прычым і наконт "валу" жэньшэня на фабрыцы ўсё, як кажуць, нармальна: пад укрыццямі, якія ўжо ў спецыялістаў атрымалі назву "мінскія", тут хаваецца ў цяньку, імітуючым дрэвавы, некалькі гектараў (!) цуда-кораня!

Адным словам, беларусы наконт вырошчвання кораня, аказваецца, уцерлі нос амаль усім. Ва ўсялякім разе ўсе, хто бачыў, на якую індустрыяльную нагу пастаўлена тут справа, толькі цмокалі языкамі: "Цудоўна!", "Салідна!"

Пра якасць жа дадам, што, паводле ацэнак, беларускі жэньшэнь (маецца на ўвазе фабрычны) у паўтара раза пераўзыходзіць карэйскі!

І адчувае цуда-корань у нашым краі сябе цудоўна — клімат для яго надзвычай спрыяльны. А захаваўся жэньшэнь больш на Далёкім Усходзе, лічыць Георгій Іванавіч, толькі па той прычыне, што шчыльнасць насельніцтва там меншая...

Ёсць у Прымор'і, вядома, і спецыялізаваныя гаспадаркі. Самая магутная носіць назву "Жэньшэнь". Там раней было 50 гектараў кораня, зараз — 26. І з усёй плошчы гаспадарка сабрала 400 кілаграмаў сухога кораня.

А вось, для параўнання, паказчыкі Мінскай гароднінная фабрыкі: у мінулым годзе ўзялі 600 кілаграмаў кораня і 565 кілаграмаў насення! Прычым гэта быў, як кажуць, першы падыход да снарада — толькі чацвёрты год гэтай справай займаюцца, так што бралі толькі выспелы ўраджай — з 20 сотак. І такі поспех!

Адным словам, ні ў былым Саюзе, ні ў Еўропе такой плантацыі і тэхналогіі няма. Па сутнасці, Беларусь ужо зараз можа стаць буйным экспарцёрам і насення, і кораня ва ўсе краіны Еўропы — там, паўтаруся, яго выгадаваць цяжка.

А ў гэтым годзе насення фабрыка можа даць каля тоны — можна, вобразна кажучы, мора засеяць і ўсю Беларусь таксама. Наконт жа самога кораня лічбы такія: сёлета гектар можа даць іх каля 2—2,5 тон. Таксама хопіць, каб без імпартных лекаў і жыццёвы тонус і беларусаў падняць, і суседзяў — блізкіх і далёкіх. Дарэчы, супраць радыяцыі ён — найпершы сродак: з'яўляецца адаптагенам — г.з. калі рэгулярна яго прымаць, то радыяцыя чалавека "не бярэ". Па сутнасці з'ява такая ж, як з каларадскімі жукамі: у свой час прывыклі да дусту і зараз іх ніякая хімічная халера таксама "не бярэ". Ну, словам, — цуда-корань, што тут дадаць?..

Але вось радасці ад такога цуда і фабрыцы, і беларусам пакуль зусім мала. А калі чэсна — то зусім сумна.

Пра гэта — крыху далей, а зараз — трошкі вясёлага. У час, калі я быў на фабрыцы і глядзеў на зараснікі цуда-кораня, вагончык-бытоўка рабочых аж троссяя ад рогату. Гэта там чыталі заметку ў адной з рэспубліканскіх газет пад назваю "Будет и у нас женьшень" — пра тое, як карэйцы ў гэтай справе будуць нам дапамагаць...

Але смяяліся людзі, як аказалася, скрозь слёзы. Па сутнасці, паўтараецца сітуацыя з італьянскаю бульбаю: сваю збыць не можам, а чужую да сябе цягнем...

— Ужо не ведаем, што і рабіць, — цяжка ўздыхнуў новы дырэктар Мінскай агароднінная фабрыкі Канстанцін Баляслававіч Біруля. — Пад рукамі — каштоўнейшы лекавы матэрыял, а рэалізаваць яго не можам. Яшчэ мінулагодняга амаль палова засталася. Трохі ўзялі ў Барысаў, на фармацэўтычнае прадпрыемства, частку лісця аддалі ВА "Крыніца" — рабіць гарэлачную настойку. Больш збыту няма...

Такія вось справы. Аказваецца, наша дзяржава чамусьці не зацікаўлена зарабляць на гэтай расліне. А трэба ж зусім нямнога: падумаць, як наладзіць перапрацоўку "кораня жыцця".

Колькі ж тут розных высокіх дзяржаўных асоб ужо пабывала! Сам Вячаслаў Кебіч у свой час дзіваваўся і абяцаў, гаварыць, направіць справу на карысць дзяржаве. Але ж — пакуль нічога не чуваць.

Пра наведванні жэньшэневых плантацый дзяржаўнымі дзеячамі маштабу паменей людзі наогул успамінаюць з гумарам. Асабліва пра дваіх "высокіх". Адзін з столаначальнікаў даў параду арганізаваць кааператыў, а другі - адкрыць фітабар: выпіў, маўляў, жэньшэневай гарэлачкі, а потым настоем з лекавых траў запіў...

Вось так і жывём. Зараз, мяркую, нашы дзяржчыноўнікі навастрылі лыжы на Усход: будуць ездзіць у КНДР у камандзіроўкі ды рыхтаваць беларускі рынак для карэйскага жэньшэню. Ёсць у мяне такое падазрэнне, мяркуючы па некаторых звестках.

Ну, а што на фабрыцы?

— Калі гуркі-памідоры не дадуць добрага прыбытку, то жэньшэневую справу прыйдзецца і прыкрыць... — гаварыў, напрыклад, той жа К.Біруля.

Сумны настрой і ў Георгія Віаленція:

— Баюся, застанецца наша прадукцыя і сёлета нерэалізаванай. Ну няма, не бачу з боку дзяржавы ніякай цікавасці да гэтай справы. Так, адно дзіцячае захапленне: охі-ахі — і ўсё. Каму я толькі не званіў! Кажу, бярыце, хлопцы, — бясплатна корань дам — і спрабуйце. Нікому нічога не трэба. А фірм зараз так званых "фармацэўтычных" развялося — не пералічыш! Але амаль усе — "купі-прадай", вытворчасць нікога не цікавіць.

За адзін грам "кораня жыцця" на сусветным рынку даюць ад долара да двух.

— Ды мы б і па 50 цэнтаў аддалі, і то выгадна было б, — упэўнены Георгій Віаленцій. — Калі наш "пяцігадовы" гектар зараз дасць да дзвюх тон кораня, то лічыце самі, колькі будзе. Можна і на нашы грошы пераверсці.

Але ж каб гаварыць пра валюту і грошы, то, падкрэслю, трэба, каб дзяржава паклапацілася пра перапрацоўку і рэалізацыю жэньшэню. Бо сіл і сродкаў на фабрыцы хапае толькі на вырошчванне.

*У двух словах*

### Лячыць прыроду будуць тыя, хто яе забруджвае

**Ад слоў да справы пераходзяць гарадскія ўлады апаленага Чарнобылем Гомеля.**

Пры гарвыканкаме створаны пазабюджэтны фонд аховы прыроды. На яго рахунак будуць залічвацца падаткі за выкіды рэчываў-забруджвальнікаў у навакольнае асяроддзе, сумы, атрыманыя за кампенсацыю ўрону, нанесенага парушэннем заканадаўства аб ахове навакольнага асяроддзя, добраахвотныя ахвяраванні.

### З першага класа — на роднай мове

**Прыкладна палова вучняў у школах рэспублікі ў новым навучальным годзе будзе праходзіць навучанне на роднай мове.**

Як паведаміў карэспандэнту РЫДа начальнік упраўлення агульнай і сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Г.Н.Пятроўскі, першыя класы ў новым навучальным годзе выйдуць на ўзровень патрабаванняў Закона аб мове, а гэта значыць, 75—80 працэнтаў вучняў будуць абучацца на беларускай мове, 67 працэнтаў школьнікаў будуць вучыцца на роднай мове ў другім і крыху менш — у трэцім класе.

**Анатоль РАМАНОВІЧ.**

*Нам стала вядома*

### Амерыканскія мільярды шукаюць гаспадара

**Два з палавінай мільярды рублёў — такі вынік акцыі "Надзея-экспрэс-2", праведзенай амерыканскай гуманітарнай арганізацыяй.**

На працягу паўтара месяца амерыканскія самалёты даставілі ў нашу рэспубліку 12,5 тысячы тон прадуктаў харчавання: алей і масла, малочныя прадукты, сухое малако і дзіцячае харчаванне. Трэцяя частка гуманітарнага грузу бязвыплатна перададзена рэспубліканскім бальніцам, дзіцячым дамам і дамам для састарэлых. Астатняе рэалізоўвалася па існуючых у Беларусі цэнах на гэтыя прадукты.

Каб вырачаныя мільярдныя сродкі прынеслі максімальную карысць рэспубліцы, арганізатары акцыі вырашылі ўкласці іх у канкрэтны праект. З гэтай мэтай 15 ліпеня адбылося першае пасяджэнне створанага ў рамках акцыі кіруючага камітэта беларуска-амерыканскага партнёрскага фонду гуманітарнай дапамогі. Яго старшынёй стаў вядомы амерыканскі свяшчэннік Пол Мор. У камітэт таксама ўвайшлі пасол ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц, прадстаўнік Міністэрства сельскай гаспадаркі ЗША, прэзідэнты фірм "Пепсіка" і "Вашынгтон-груп", з беларускага боку — прадстаўнікі Дзіцячага фонду, Дзяржкамчарнобыля, Саюза прадпрымальнікаў рэспублікі, Экзархату Беларускай праваслаўнай царквы і аддзела гуманітарнай дапамогі Савета Міністраў. У час сустрэчы ўдзельнікі Камітэта дагаварыліся, што грошы будуць накіраваны або на ажыццяўленне праекта ў галіне аховы здароўя, медыцыны і падтрымкі сацыяльнай сферы, або на развіццё прадпрыемстваў і падтрымку рынкачных структур.

"Амерыканскія мільярды жадаюць знайсці гаспадара" — з такім заклікам звярнуліся за беларусаў прадстаўнікі Камітэта, аб'явіўшы конкурс сярод жыхароў рэспублікі на лепшы праект па выкарыстанню сродкаў фонду. Тэрмін падачы прапаноў — да 15 верасня. Дарэчы, перавагу над іншымі праектамі будуць мець праграмы, звязаныя з праблемамі дзяцінства.

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ,**
**Белінфарм.**

*г.Мінск.*

*Хочу спросить*

### Забота на бумаге?

Отмечая Международный день инвалидов, Совет Министров Республики Беларусь издал постановление N 720 от 30.11.92 года, в котором говорится, что Министерству финансов поручено внести предложение о предоставлении с 1 декабря 1992 г. инвалидам и семьям, в которых воспитываются дети-инвалиды, права на получение беспроцентного займа на индивидуальное строительство... Прошло полгода. И что же?

Обратился в Первомайское отделение сбербанка с просьбой предоставить возможность получить беспроцентную ссуду на строительство дома. Мне ответили, что по их инструкции беспроцентные ссуды выдаются только ликвидаторам и инвалидам войны. Выходит, забота была только на бумаге?

**Н.ШУПИЛОВ,**
**инвалид II группы.**

*Поможем?*

### Если бы у знаменитого Павлова был компьютер!

Много лет я занимаюсь исследованиями в области рефлексотерапии, трачу на это все свои деньги. Накопился огромный и интересный материал. Можно быстро и эффективно помогать людям, диагностировать их. Но как минимум надо создать программу индивидуальной профилактики заболеваний. Нужен компьютер, а по цене он совершенно недоступен. Понимая, что исследования в области медицины, да еще не в столичном городе, мало кого волнуют, ведь они не окупаются мгновенно, но зарплата врача так мала, что прошу помощи. Надежда умирает последней, а вдруг какая-то фирма или банк не позволят ей умереть, и тогда мне удастся подарить родному городу и больным людям труд всей моей жизни. Конечно, я не Павлов, но сколько бы он успел, будь у него компьютер!

**Виктор КИРЕЕВ,**
**врач.**

*г.Пинск.*
Телефон 3-28-14.

*Информация к сведению*

### Идея принадлежит КПСС?

**Интересную информацию сообщил журналистам председатель Белорусского народного фронта Зенон Позняк на пресс-конференции, состоявшейся по итогам научно-практической конференции "Пути выхода из топливно-энергетического кризиса".**

По его словам, идея создания Балтийско-Черноморского нефтяного коллектора, которая обсуждалась на конференции, принадлежит еще КПСС. "В 1963 году Совет Министров СССР и КПСС, — сказал Зенон Позняк, — выдали даже распоряжение, чтобы этот коллектор создать, но не смогли его осуществить..." Еще более лидер БНФ заинтриговал журналистов, когда сказал, что позже об этом будет "сказано более подробно", а пока это лишь информация к сведению.

**Константин ГЕНИК,**
**БелаПАН.**

